Народная Воля 3 ВЕРАСНЯ 1999 г.

Вострая тэма

# Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

Такую вартую вялікага жалю моўную сітуацыю на далучаных да Расіі беларускіх землях не збіраліся мяняць яе правіцелі, хаця і заяўлялі ўсёй Еўропе, быццам падзеламі Рэчы Паспалітай Расія хацела выратаваць ад акаталічвання і апалячвання сваіх кроўных "праваслаўных братоў". Кацярына II бессаромна падманвала еўрапейскіх палітыкаў, бо ў агульнай колькасці хрысціян нашага краю праваслаўнымі былі ўсяго прыкладна дзесяць працэнтаў. Сярод вернікаў істотна пераважвалі уніяты. І галоўнае — іх царква, адрозненне ад каталіцкай і праваслаўнай, не займалася ні апалячваннем, ні абрусеннем сваіх вернікаў, а як толькі магла, трымалася беларускіх нацыянальна-культурных традыцый. Толькі не заўсёды гэта ўдавалася.

Здзейсніўшы велізарнае злачынства ўжо першым падзелам Рэчы Паспалітай, расійская імператрыца Кацярына II, каб супакоіць улады еўрапейскіх дзяржаў, запэўнівала, што на далучаных землях сваю палітыку яна будзе будаваць так, каб "усе народы, якія знаходзіліся ў Расіі, славілі Бога Усемагутнага рознымі мовамі паводле закона і веравызнання прабацькоў сваіх"[1]. У адпаведнасці са зместам гэтых слоў у хрысціянскія святыні нашага краю, дзе панавалі — галоўным чынам дзякуючы адміністрацыйным метадам — польская і руская мовы, павінна была планамерна, па ініцыятыве саміх кіраўнікоў царквы і касцёла ўводзіцца ў набажэнства беларуская мова. Прыкладаў таго, што ў гэтым напрамку штосьці канкрэтнае рабілася, гісторыя нам не дала.

На практыцы пры вырашэнні ўсіх моўных пытанняў у той час няўхільна кіраваліся палажэннямі падпісанага 28 мая 1772 года Кацярынай II Наказу, у адпаведнасці з якім усе губернатары былых польскіх (ужываць слова "беларускіх" на такіх землях спачатку было нямодным) правінцыяў абавязваліся складаць толькі на расійскай мове "ўсе... прыгаворы, рашэнні ці загады, дадаючы да гэтага пераклады, дзе такія патрэбнымі будуць, і перадрукоўваючы іх губернскім друкам". У тым жа Наказе адзначалася, што жыхары далучаных земляў маюць права карыстацца сваёй роднай (гэта значыць беларускай) мовай і мясцовымі законамі толькі тады, калі яны не будуць "дакранацца да ўлады нашай"[2]. Вырашэнне ж пытання, дакранаюцца ці не беларуская мова і мясцовыя законы да расійскай улады, ускладалася на апошнюю, і ў такіх выпадках яна заўжды кіравалася выключна ўласнымі інтарэсамі. У яе заўсёды хапала правоў і сілы, каб грунтоўна ўмацаваць свае пазіцыі на далучаных беларускіх землях. З прычыны нежадання чыноўнікаў беларускага і польскага паходжання ўжываць там, дзе гэта належала, рускую мову ў складанні афіцыйных дакументаў, былі прыняты дадатковыя захады па яе ўкараненні. Так, 8 мая 1773 года Кацярына II падпісала Наказ "Аб заснаванні ў Беларускіх губернях губернскіх і правінцыйных земскіх судоў", у якім яшчэ раз было нагадана пра абавязковае выкарыстанне ў канцылярскім справаводстве толькі рускай мовы[3].

Расійскія ўлады вельмі хутка адышлі — а больш дакладна будзе сказаць: нават і не падышлі — на захопленых землях да выканання з вялікім пафасам выкладзенага ў Наказе абяцання: "Мы жадаем, каб не толькі гэтыя Правінцыі сілаю зброі былі Нам пакораны, але каб усе сэрцы людзей, якія ў іх жывуць, добрым, прыстойным, правасудным, паблажлівым, лагодным і чалавекалюбным кіраваннем Расійскай імперыі засвоілі, каб яны самі прычыну мелі паважаць адарванне сваё ад Анархіі рэспублікі Польскай за першы крок да іх працвітання"[4]. Таму я не парушу ісціны, сцвярджаючы, што з дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі наш народ сутыкнуўся адразу ж, як толькі яго ўсходнія землі трапілі пад уладу Расіі. Яна нават і не падумала, каб на той частцы земляў, дзе ёй удалося пацясніць польскі элемент, выклікаць да жыцця беларускі, які толькі і меў тут права на законнае існаванне. Проста польскае замянялася на рускае, і дээтнізацыя беларускага народа працягвалася. "Падарунак", паднесены беларусам уладамі ўсходняга славянскага рускага суседа, быў такой жа "каштоўнасці" як і той, які беларусы на працягу ўсёй гісторыі існавання Рэчы Паспалітай атрымлівалі ад яе ўрада. Хоць бы сёння не мець нам такой "ласкі" з боку суседніх братоў-славян і сваёй уласнай гадоўлі братоў-беларусаў, якія даўно адцураліся сваіх духоўных традыцый, сталі носьбітамі чужых культур і моваў.

Захоп Расіяй велізарнай тэрыторыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай яшчэ больш умацаваў у свеце пазіцыі гэтай самай магутнай імперыі, спарадзіў не толькі ў яе палітыкаў, але і ў адукаваных колах грамадства дух рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. Людзі такога погляду ўсё больш і больш шукалі шляхоў і спосабаў пераплаўкі ўсіх народнасцяў і плямёнаў імперыі ў адзін народ, імя якога павінна быць — "рускі". Чаду шавінізму аказаліся не пазбаўлены нават многія дзекабрысты, якіх прынята лічыць за "вяршкі" расійскага грамадства, і іх шматлікія прыхільнікі, пераважна з інтэлігенцкага асяроддзя. Так, згодна з праектам канстытуцыі Паўла Песцеля, толькі Польшчы давалася права на самавызначэнне, а ўсе астатнія народы, у тым ліку і беларускі, павінны былі зліцца ў межах Расійскай імперыі "ў адну агульную масу". Якую велізарную шкоду магла прынесці такая палітыка ўсім нярускім народам, П.Песцеля зусім не цікавіла.

Нічога добрага не абяцаў беларусам і праект канстытуцыі дзекабрыста Мікіты Мураўёва, хаця ён і пачынаў пісаць яго на тэрыторыі нашага краю. Паводле гэтага праекта Расію належала падзяліць на 14 дзяржаў, адна з якіх павінна была называцца Дняпроўскай, куды прапаноўвалася ўключыць усе беларускія землі. Сталіцай гэтай дзяржавы меркавалася зрабіць Смаленск. Як бачым, і М.Мураўёў не разглядаў Беларусь як адметны, самабытны этнічны край. Для яго ён з'яўляўся ўсяго толькі геаграфічным паняццем і таму не заслугоўваў адметнага падыходу пры выпрацоўцы культурнамоўнай палітыкі.

Погляды дзекабрыстаў, як і многіх іншых ідэолагаў палітыкі русіфікацыі, на жаль, падзяляла і большасць самых адукаваных, інтэлігентных людзей Расіі. Не быў выключэннем і паэт Аляксандр Пушкін, інакш бы ён не дазволіў сабе пісаць, што руская мова "як матэрыял славеснасці мае бясспрэчную перавагу перад усімі еўрапейскімі". Не выключана, што хтосьці, зусім не знаёмы з класічнымі шэдэўрамі мастацкай французскай, італьянскай, нямецкай, англійскай і іншых літаратур, і сапраўды мог паверыць у такое.

Вельмі хутка перакананаўшыся, у якім страшэнным запусценні знаходзяцца беларуская культура і мова на сваёй гістарычнай тэрыторыі, прычыны чаго — у планамернай дзяржаўнай палітыцы апалячвання яе карэннага насельніцтва, улады Расіі цвёрда вызначылі: барацьбу тут трэба весці не з мясцовым, беларускім, а з занесеным звонку польскім элементам. Таму русіфікацыя культуры, адукацыі нашага краю адбывалася не праз замену ўсяго беларускага на рускае, а шляхам выцяснення польскага пры адначасовым замене яго рускім. І трэба аддаць належнае энергічнай дзейнасці Кацярыны II. У гэтай справе яна даволі хутка дасягнула вынікаў. Такія дасягненні ў выштурхоўванні польскай культуры і мовы з беларускай тэрыторыі тлумачыліся ў значнай ступені адсутнасцю сур'ёзнага супраціўлення такому курсу з боку насельніцтва, бо многія разумелі, што польскія традыцыі не маюць тут пад сабою прыроднага грунту. Іх па-сапраўднаму адстойвалі ад русіфікацыі толькі этнічныя палякі Беларусі. Аднак у апошніх не мелася столькі сілы і магчымасцяў, каб супрацьстаяць магутным хвалям русіфікацыі, якія наплывалі з усходу.

*1 Цытаванне па кн.: Кавалевский Максим. Национальный вопрос и равенство подданных перед законом. СПб. 1906. С.4.*

*2 Полное собрание законов Российской империи (в дальнейшем — ПСЗРИ). Т.19. СПб. 1830. С.508, 510.*

*3 Там же. С.775.*

*4 Там же. Т.19. С.508.*

***(Працяг будзе.)***

## Магчымы новыя акцыі пратэсту на прамысловых прадпрыемствах

Старшыня Магілёўскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў Анатоль Любчанка, каменціруючы прычыны прайшоўшага на мінулым тыдні страйку на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў (ТДА), не выключыў магчымасці правядзення новых акцый пратэсту на прамысловых прадпрыемствах вобласці.

На думку прафсаюзных лідэраў Магілёўшчыны, віна за ўзнікненне канфлікту на заводзе ТДА большай часткай ляжыць на кіраўніцтве прадпрыемства. Да такой жа высновы прыйшлі работнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці пасля праверкі фінансавай дзейнасці завода. Спецыялісты КДК лічаць, што адміністрацыя павінна была прадбачыць магчымыя затрымкі з выплатай зарплаты і своечасова прыняць неабходныя захады да іх недапушчэння.

Лідэр абласнога аб'яднання прафсаюзаў Анатоль Любчанка асабіста наведаў шэраг прамысловых прадпрыемстваў Бабруйска, каб на месцы азнаёміцца з іх эканамічным станам, выкананнем калектыўных дагавораў. Паводле яго слоў, хуткім часам прафсаюзы будуць разглядаць магчымасць правядзення акцый пратэсту супраць усё больш пагаршаючагася ўзроўню жыцця насельніцтва. Аднак аб'яднаныя прафсаюзы працягваюць спадзявацца, што да новых страйкаў справа не дойдзе. На 7 верасня прызначана сумеснае пасяджэнне прэзідыума Магілёўскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў, кіраўніцтва аблвыканкама і прадстаўнікоў дырэктарскага корпуса прамысловых прадпрыемстваў, дзе будуць абмяркоўвацца выкананне Генеральнага пагаднення паміж прафсаюзамі, уладай і наймальнікамі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Рок-гурт "Мясцовы час" рыхтуе прэзентацыю новага альбома

Прадстаўнікі аднаго з вядомых беларускіх рок-гуртоў "Мясцовы час" далі прэс-канферэнцыю пасля адраджэння калектыву і выпуску новага альбома "Халі-Галі" з дапамогай праекта Беларуская Музычная Альтэрнатыва (БМА). На думку лідэра "Мясцовага часу" Алеся Кузьміна, у новым альбоме гучыць "чысты рок-н-рол" з "фірмовым" гукам гурта, які забяспечваюць адмысловыя самаробныя лампавыя ўзмацняльнікі.

Паводле слоў музыкаў, прэзентацыя новай праграмы мае адбыцца на традыцыйным мінскім фэсце "Рок па вакацыях", які запланаваны на сярэдзіну верасня. Аднак, як адзначыў намеснік БМА Сяргей Бялевіч, правядзенне фэсту пакуль знаходзіцца пад пытаннем. Паводле яго слоў, за апошнія некалькі месяцаў улады забаранілі каля 20 канцэртаў з удзелам беларускамоўных рок-гуртоў, якія БМА спрабавала ладзіць па ўсёй Беларусі. "Мясцовы час" мусіў граць на некалькіх з гэтых канцэртаў. У Наваполацку, дзе жывуць удзельнікі гурта, сітуацыя з правядзеннем канцэртаў пакуль што лепшая, і прэзентацыя альбома у кастрычніку мусіць адбыцца без праблем, заўважыў А.Кузьмін.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

## Бесплатные правовые консультации

Минское городское общественное объединение "Правовая помощь населению" при содействии фонда "Евразия" оказывает бесплатную правовую помощь малоимущим слоям населения (инвалидам, участникам войны, пенсионерам, одиноким матерям, студентам, несовершеннолетним).

Общественная приемная ОО "Правовая помощь населению" принимает граждан по адресу: **Минск, ул.Я.Коласа 45/1 (ост. трамвая "Ул.Чернышевского"), каждый вторник, среду и четверг с 10.00 до 17.00. Предварительная запись по телефону 239-31-67.**

**Олег ВОЛЧЕК, председатель ОО "Правовая помощь населению".**

Стоп-кадр

## Дарога да святыняў

1 верасня ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску адправілася ў дарогу навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў". Яна пройдзе па раёнах Брэсцкай і Гомельскай абласцей і завершыць свой шлях у Пінску, дзе адбудзецца Свята беларускага пісьменства.

**На здымках:** *1. Перад удзельнікамі экспедыцыі "Дарога да святыняў" выступіў старшыня Дзяржкамітэта па друку Рэспублікі Беларусь Міхаіл Васільевіч Падгайны. 2. Экспедыцыя адпраўляецца ў дарогу.*

Чувства века

*Анна СОУСЬ*

# Злость

...Когда змея выпускает свое смертельное жало, она защищается...

Табличка "Осторожно, злая собака!" висит на заборе. Но редкая собака бывает зла от природы. Ее специально натаскивают, науськивают, много бьют. Пройдя курс обучения жестокостью, собака становится злой. Иногда после этого к ней боится подойти даже сам хозяин.

Вы заметили, какие злые лица сейчас у многих стариков, особенно старух? Заходишь в автобус через переднюю дверь, с трудом втолкнешься на верхнюю ступеньку, поворачиваешь лицо и... видишь лица, старые морщинистые лица, темные веки, жесткие глубокие складки у губ, и как буравчиком пронизывают злым ядовитым взглядом больные обесцветившиеся глаза. Им сейчас так тяжело, нашим старикам. Но почему иногда такая яростная злоба к молодости, здоровью, красоте сквозит во взглядах у некоторых из них?.. Зависть, разочарование, беспомощная злость... Не знаю...

Какова природа злобы? Всегда ли это просто негативная реакция на что-то, ответный удар, своего рода выпускание паров или же злость глубоко-глубоко, "по самую селезенку" сидит в самом человеке от рождения?

Ударили по лицу, оскорбили, унизили, попал в безвыходную ситуацию... И горячая волна злости настигает вас. У одного кровь ударяет в голову, кто-то бледнеет, у другого начинается спазм сосудов. Недобрым огнем загораются глаза, и злая отрицательная аура распространяется вокруг человека, заражая все вокруг. Выплеснутое зло, как вирус, поражает окружающих. Но тогда человек освобождается. А вот глубоко затаенное зло разъедает человеческий организм, как раковая опухоль.

Злость, злоба, злодейство, зло... По нарастающей — от чувства и ощущения к действию и состоянию. От злой мысли к злому действию, к злой действительности. И звенья этой цепочки бывает так трудно разорвать. Утром за завтраком "покормили" злыми упреками. Пробило колесо в машине. Оштрафовал гаишник. На работе "сорвал" зло на коллеге, попавшем под руку. Не состоялась сделка. Вечером наорал на нашалившего ребенка. Испортил настроение близким. Разбил тарелку и выбросил в окно телефон. А внизу, может быть, кто-то стоял...

Поэт Андрей Дементьев писал когда-то о мужском характере: "*Можно душу отвести на людях, только б в сердце не копилось зло*". Прав ли он? А на кого набросятся те, на ком отвели душу? Это же снежный ком, катящийся с горы... Недаром столько производных от слова "злость" нашлось в нашем языке. И все с негативным окрасом: злопыхатель, злодей, злоумышленник, злыдень, злюка, зловоние, злодеяние, злоключение, злорадство, злословие, злоупотребление, злосчастный, злоязычный, злейший, зловещий, зловредный, злокачественный, злонамеренный, злонравный, злопамятный, злополучный... Переполнен злобой наш зыбкий мир.

Познав зло, понимаешь сущность добра. Но плотно переплетены, а где-то и поменялись местами добро и зло. Доброта и злость. Не зря Мефистофель в "Фаусте" называл себя частью той силы, что олицетворяет зло, а на деле приносит благо...

Один российский актер как-то определил интеллигентность как изначально доброжелательное отношение к людям. Это один из элементов внутренней культуры. Отсутствие злости. Но как это бывает тяжело...

Чувствуете, как закипает в крови злость, что готовы вот-вот взорваться? Не торопитесь посылать проклятия или устраивать мордобой. Ударить — вот боксерская груша, покричать — можно и в небольшом леске или на берегу реки. Только не "выпускайте" злость на окружающих. Наш мир и так переполнен людской злобой...

Шаги приватизации

## Куплены хозяйством "Куплино"

В Березе и Пружанах состоялись аукционы по продаже объектов районной коммунальной собственности. Они проведены отделами экономики, рыночных отношений и приватизации Березовского и Пружанского райисполкомов при техническом содействии проекта Международной финансовой корпорации (МФК) "Малая приватизация в Беларуси", финансируемого Агентством США по международному развитию.

На торгах в Березе в результате острой конкурентной борьбы стоимость склада выросла более чем в 26 раз и составила 770 миллионов рублей. Победитель аукциона — ООО "Альтаир" — после приведения здания в порядок планирует разместить здесь ветеринарный кабинет, склад ветпрепаратов и офис, а также увеличить число рабочих мест с 8 до 12 человек.

В Пружанах состоялся голландский аукцион. На продажу было выставлено 16 лотов — здания и сооружения бывших военных городков. Победитель аукциона — Кудрейко Алексей Иванович, руководитель крестьянско-фермерского хозяйства "Куплино" — приобрел все объекты за 2 миллиарда 224 миллиона 200 тысяч рублей (цена продажи превысила минимальную цену в 1,5 раза). Новый собственник разместит здесь овощехранилище, технику, таможенные склады. Вместе с представителем польской фирмы "Rolmak" он планирует создать СП "Купрол", которое будет заниматься производством кормов, выращиванием кур, гусей и переработкой мяса.

## Даўгунец таксама не ўрадзіў

Невясёлымі, аднак, будуць сёлетнія "Дажынкі-99", бо па колькасці няўдалы ў аграрным сектары гэты год не мае сабе аналагаў. Паўсюдна спад у жывёлагадоўлі, вялікі недабор зерня, а цяпер высвятляецца, што нават у буйным льносеючым Пастаўскім раёне толькі на 640 гектарах з больш чым дзвюх тысяч пасеваў саспеў ядрэнны лён. Яшчэ на 300 га прыйшлося даўгунец спісаць, або наогул перааараць. Таму мясцоваму льнозаводу — аднаму з лепшых у краіне — наўрад ці ўдасца вярнуць поўнасцю ўласныя 9 млрд. рублёў, выплачаныя авансам калгасам, паколькі недабор трасты складзе больш 2 тыс. тон. Магчыма, нават сезон перапрацоўкі паўночнага шоўку прыйдзецца тут і на іншых раёнах завяршыць датэрмінова. Летась, прыгадваецца, буйную агульнарэспубліканскую нараду па ільну правялі, аднак зноў няпросты час чакае еўрапейскага гіганта — Аршанскі льнокамбінат.

**Уладзімір ШЫМОЎСКІ.**

Ліст з глыбінкі

## На мінулым тыдні ў Круглым значна "скокнула" цана на звычайны хлеб — з 48 да 66 тысяч рублёў за бохан

Шчыра кажучы, мясцовае насельніцтва чакала падаражання хлеба, але што цана так рэзка павысіцца, не думаў ніхто. Яно і зразумела: сярэдняя ўраджайнасць па Магілёўскай вобласці складае ўсяго толькі 14,9 цэнтнера з гектара. Па Круглянскім раёне гэты паказчык крыху вышэйшы — 16,9, але ўраджайнасць усё роўна на 9 цэнтнераў ніжэй за мінулагоднюю.

Асабліва здзіўляе многіх круглянцаў тое, што ў суседнім Талачынскім раёне цана такога бохана даволі боская — 40 тысяч "зайцоў". Гэтаму многія людзі, асабліва пенсіянеры, едуць у Талачын за хлебам.

Раней у Круглае амаль кожны тыдзень прыязджала машына з хлебам, і яго імгненна людзі раскуплялі. Зараз жа кажуць, што мясцовая ўлада забараніла талачынцам прадаваць тут свой хлеб. Асноўны аргумент — ніхто круглянскі хлеб не купіць, бо ён значна даражэйшы, а якасць яго даволі нізкая.

Многія людзі чакалі падаражання хлеба пасля "Дажынак", што адбудуцца ў канцы верасня ў суседнім Шклове, але, відаць, бюджэтных грошай на датацыю найбольш таннага хлеба няма, бо ўсе яны пайшлі на падрыхтоўку гэтых самых "Дажынак".

**Святаслаў МАХАНЁК.**

г.п.Круглае.

Не могу молчать

## Не тиран создает себе рабов, а рабы создают тирана

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная воля"!

То, что происходит сегодня у нас в Беларуси, я бы назвал продолжением известного российского фильма "Русское чудо". Народ, впавший в состояние транса под воздействием сладких, лживых речей президента и его команды, как терпящий бедствие корабль, стремительно погружается в бездну. Есть ли надежда на спасение, услышит ли кто сигнал о помощи, когда капитан судна заявляет: "Курс выбран правильный, 56 процентов с нами, остальных — за борт".

Давайте научимся прежде всего быть честными и порядочными людьми, ибо человек, поднимаясь по служебной лестнице, где-то теряет эти качества.

Минский тракторный завод — гордость и флагман нашей Беларуси. То, что творится там, с трудом поддается описанию. 10—12 дней простоя в месяц, отсутствие сбыта, у многих нищенская зарплата (11—13 млн. рублей), бесправное положение рабочих. Пусть президентские социологи придут туда и спросят о степени доверия к А.Г.Лукашенко и его окружению. Потому-то они и боятся сегодня честных, демократических выборов.

И последнее. Большинство людей у нас доведены до нищеты и фатальной обреченности, более того, они боятся этой власти. Нам говорят, что всем плохо, что надо потерпеть. Но на фоне этого кое-кто жирует, а директора производств заявляют рабочим: "Если мы вам сегодня поднимем зарплату, завтра нас снимут". Когда-то президент сказал: "У нас все будет". Теперь нетрудно догадаться, кого он имел в виду.

Хочется обратиться ко всем, кто еще не утратил своего достоинства: подумайте о будущем своих детей, выдавливайте из себя рабское начало, помня одну старую истину: "Не тиран создает себе рабов, а рабы создают тирана".

**С уважением Валерий ЕРЕМЕНКО, рабочий, 33 года.**

Минск.

**P.S.** *Свободный профсоюз на МТЗ, можно сказать, загнали в подполье. Официальный, т.е. "карманный" профсоюз, молчит. Рабочих основных цехов опять отправили по домам. К чему пресловутый декрет №29, неужели рабочие виноваты в том, что работать приходится 7—10 дней в месяц? Кто из представителей власти ответит за печальный итог своего правления?*

Мониторинг

# Кому доверяет молодежь?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Наиболее высокую степень доверия население демонстрирует к таким институтам, как школа, наука, церковь, президент и армия. Интересно, что среди важнейших государственных и общественных институтов, пользующихся доверием людей, на первом месте оказываются институты духовной, а не политической или военной власти. Поразительно, что в эту лидирующую группу попали и независимые исследовательские центры, намного опередив государственные исследовательские центры. А у молодежи они вообще имеют самый высокий рейтинг, хотя половина респондентов не располагает информацией о них и затрудняется дать оценку их деятельности. Но среди тех, кто знает о независимых исследовательских центрах, доверяющих вдвое больше, чем не доверяющих. Доверие к исследовательским центрам, превышающее доверие к другим независимым структурам, таким как свободные профсоюзы или СМИ, по-видимому, объясняется тем, что в массовом сознании они воспринимаются как политически неангажированные, опирающиеся на объективные научные факты, а не на субъективные политические или идеологические пристрастия.

То, что во "взрослом" рейтинге доверия к институтам государства и общества было исключением, приобретает черты закономерности в рейтинге молодежном. Здесь уже все институты, пользующиеся доверием у большинства молодых людей, принадлежат к числу негосударственных структур. Это и независимые исследовательские центры, и негосударственные СМИ, и церковь. В то же время президент, армия, правительство, Национальное собрание и многие другие официальные институты располагаются на шкале доверия ниже нуля. Это означает, что среди молодежи тех, кто не доверяет им, больше, чем тех, кто доверяет. Таким образом, вторая характерная особенность молодежного рейтинга доверия состоит в том, что по сравнению со старшими возрастными группами среди молодежи заметно выше удельный вес респондентов, выражающих категорическое недоверие основным институтам общества. Так, если в среднем 28,8% респондентов не доверяют президенту, 38,6 % — местным властям, 44,9% — милиции, то среди молодых людей до 30 лет таких соответственно 44,9%, 46,9%, 53,8%.

Как доверие к власти сказывается на представлениях о возможных способах влияния на нее? Ответ на этот вопрос дают данные табл. 2, где помимо мнений опрошенных в целом и молодежи для сравнения приведена информация еще по одной группе — группе тех, кто не доверяет президенту.

**Таблица 2.** Каким образом, на Ваш взгляд, можно эффективнее всего воздействовать на власть в Беларуси? (в %)

| Вариант ответа | Опрошенные в целом | Молодежь | Не доверяющие президенту |
|---|---|---|---|
| Через выборы и референдумы | 30.1 | 28.8 | 23.0 |
| Через выступления в СМИ | 28.7 | 30.1 | 22.9 |
| Через обращения в органы власти | 21.5 | 17.2 | 9.1 |
| Через митинги, демонстрации | 16.0 | 18.8 | 23.3 |
| Через забастовки | 13.1 | 16.0 | 24.1 |
| Через вооруженную борьбу | 10.4 | 14.4 | 25.7 |
| Через подписание публичных обращений | 10.1 | 12.9 | 9.0 |
| Через голодовки | 2.7 | 2.9 | 5.1 |

Как видно из приведенных данных, население в целом отдает предпочтение конвенциональным, неконфликтным способам воздействия на власть — первое место среди этих способов занимают выборы. Хотя у молодежи доверия к власти куда меньше, чем у старшего поколения, однако и она ранжирует способы воздействия на власть по эффективности примерно так же, как и население в целом. Иная картина при рассмотрении результатов по группе не доверяющих президенту — здесь порядок приоритетов оказывается почти противоположным, каждый четвертый из этой группы считает, что самые эффективные средства воздействия — это забастовки и вооруженная борьба. Эти люди не только не доверяют такому важному институту власти, как президент, они считают, что побудить власть считаться с их мнением можно **только при помощи крайних мер**. Насколько велика готовность прибегать к тем или иным способам воздействия на власть, показывают данные табл. 3.

**Таблица 3**. Как вы относитесь к участию в публичных действиях для выражения своего мнения? (в %)

| Вариант ответа | Принимали участие | | | Готовы участвовать | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | опрошенные в целом | молодежь | не доверяют президенту | опрошенные в целом | молодежь | не доверяют президенту |
| Выборы и референдумы | 34.0 | 27.4 | 28.6 | 28.7 | 35.0 | 29.8 |
| Выступления в СМИ | 2.9 | 2.8 | 3.7 | 19.9 | 21.5 | 27.5 |
| Обращения в органы власти | 5.9 | 4.3 | 5.0 | 22.1 | 21.8 | 17.4 |
| Митинги, демонстрации | 5.4 | 6.9 | 8.3 | 13.3 | 15.7 | 24.2 |
| Забастовки | 1.9 | 2.1 | 4.3 | 11.0 | 13.5 | 21.0 |
| Вооруженная борьба | 0.5 | 0.6 | 0.5 | 7.2 | 8.5 | 16.8 |
| Подписание публичных обращений | 7.0 | 7.5 | 13.1 | 27.3 | 33.2 | 32.3 |
| Голодовки | 0.5 | 0.7 | 0.6 | 3.0 | 3.5 | 7.8 |

В каждой из форм публичных действий, кроме выборов, участвовало не более 7% опрошенных. Стоит заметить, что лишь чуть более трети опрошенных сообщили о своем участии в выборах и референдумах, хотя, по официальным сообщениям, в стране в этих мероприятиях принимают участие 60—70% граждан, имеющих право голоса. По-видимому, такие разночтения связаны с психологическим контекстом вопроса: не все, принимавшие участие в выборах, считают, что тем самым публично выражали свое мнение.

Стоит отметить, что молодежь оказывается несколько пассивнее населения в целом, хотя готовность к действиям у молодежи выше. Что касается группы не доверяющих президенту, то она демонстрирует и большую активность, и большую готовность к действиям. Разумеется, если человек заявляет о готовности прибегнуть к радикальным действиям, это не означает, что он примет в них участие на самом деле. Подобный ответ — скорее индикатор недовольства, разочарования в "общественном договоре", имя которому — государство.

Можно было бы предположить, что причина низкого доверия молодых людей к государственным и общественным институтам состоит в том, что они больше ориентированы на собственные, молодежные организации. Таких организаций в республике немало — свыше семидесяти, — и именно они, по идее, должны приобщать юношей и девушек к активному участию в жизнедеятельности государства. Однако результаты опроса не подтверждают эту гипотезу.

**Таблица 4.** Отношение молодежи к молодежным общественным объединениям (в %)

| Молодежные организации | Отношение положительное | Отношение отрицательное | Отношение безразличное | Не знают такой организации | Индекс отношения |
|---|---|---|---|---|---|
| Белорусский союз молодежи | 21.9 | 9.3 | 34.9 | 32.2 | +0.129 |
| Белорусский патриотический союз молодежи | 23.2 | 16.5 | 36.5 | 21.9 | +0.069 |
| Лига добровольного труда молодежи | 9.1 | 3.5 | 19.1 | 66.2 | +0.057 |
| Задзіночанне беларускіх студэнтаў | 8.1 | 3.4 | 20.7 | 66.0 | +0.048 |
| Ассоциация молодых политиков | 8.7 | 4.3 | 22.1 | 63.1 | +0.045 |
| Малады Фронт | 9.7 | 5.4 | 26.5 | 56.6 | +0.043 |
| Маладая Грамада | 9.3 | 5.4 | 28.8 | 52.6 | +0.040 |
| Некст стоп – нью лайф | 4.7 | 3.2 | 15.6 | 74.0 | +0.015 |
| Гражданский форум | 3.7 | 4.7 | 24.0 | 65.3 | - 0.011 |
| ЛКСМБ | 6.6 | 15.7 | 32.5 | 42.5 | - 0.094 |

** индекс отношения рассчитывается так же, как и индекс доверия*

Как видно из табл. 4, до 80% молодых респондентов, а в некоторых случаях и больше, ничего не знают о существовании молодежных объединений либо безразличны к ним. Но при этом значения индексов, характеризующих популярность организаций у молодежи, в большинстве случаев хотя и невысоки, но положительны. То есть потенциально отношение к самым разным объединениям у юношей и девушек скорее позитивное, чем негативное. Они принимают, а не отрицают их, но мало вовлечены в них. Откуда этот парадокс? По мнению активистов и лидеров молодежных объединений, опрошенных НИСЭПИ ранее (всего опрошено 108 респондентов), одна из причин неучастия молодых людей в объединениях, к которым, в принципе, относятся скорее положительно, состоит в ограниченном доступе к СМИ, в отсутствии возможностей у большинства объединений информировать о своей деятельности и рекламировать ее. Это препятствует активной коммуникации молодежных организаций со своими потенциальными членами и не дает возможности каждому молодому человеку сделать свой выбор. Безразличие молодых людей объясняется и тем, что большинство из них осознает, сколь незначительна роль молодежных организаций в делах общества и государства, как мало к ним прислушиваются. Подтверждение тому — ответы активистов и лидеров молодежных общественных движений, 55,6% которых на вопрос о том, имеют ли они возможность через свою организацию участвовать в принятии важных для республики решений, ответили отрицательно.

Итак, молодежь не проявляет доверия к официальным государственным структурам и в то же время довольно слабо интегрирована в существующие молодежные объединения. Она снова вне тех рамок, которые ей предлагает общество.

**Олег МАНАЕВ, Юрий ДРАКОХРУСТ.**

*(Независимый институт социально-экономических и политических исследований.)*

